№ 77 (199)

Чацвер, 8 мая 1997 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах

Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень

Выдавец — ТАА "Народная воля"

Кошт: у кіёсках і крамах — 2000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб Колас**

# Народная Воля



**Сонца**

| | Усход | Заход |
|---|---|---|
| Віцебск | 5.05 | 20.48 |
| Магілёў | 5.09 | 20.42 |
| Гомель | 5.12 | 20.33 |
| Мінск | 5.20 | 20.52 |
| Гродна | 5.36 | 21.07 |
| Брэст | 5.43 | 21.01 |



## Заявление

### Президиума Верховного Совета Республики Беларусь 13-го созыва

Как стало известно из российских средств массовой информации, 30 апреля 1997 года в 15.20 на территории Республики Беларусь в районе д.Литва произошел взрыв на газопроводе Торжок — Минск — Ивацевичи. Обращает на себя внимание, что первыми о происшествии сообщили российские СМИ, в то время как белорусские масс-медиа, включая государственное телевидение, по существу, сокрыли этот факт от белорусского народа. К сожалению, горькие уроки Чернобыля не осмыслены теми, кто руководит официальными средствами массовой информации Беларуси. Народ Беларуси имеет право и должен знать, что конкретно произошло 30 апреля на территории государства — террористический акт, халатность служебных лиц или техническая авария.

В этой связи Президиум Верховного Совета Республики Беларусь решительно осуждает сокрытие от народа информации по данному случаю и заявляет, что любые попытки политической дестабилизации обстановки в Беларуси, тем более террористического характера, от кого бы они ни исходили, лишь усугубляют экономический кризис, ухудшают жизнь людей и объективно играют на руку официальным властям, которые в преддверии подписания Устава о создании Союза Беларуси и России могут использовать их для усиления репрессий и наступления на демократию и права человека в республике.

Президиум Верховного Совета в очередной раз заявляет, что нормализация обстановки и выход из кризиса возможны лишь на основе незамедлительного восстановления в полном объеме действия Конституции Республики Беларусь 1994 года.

*2 мая 1997 г.* *г.Минск*

## За незалежнасць Бацькаўшчыны!

### Зварот інтэлігенцыі да народа Беларусі

Дарагія суайчыннікі! Браты і сёстры!

Сёння ўсе мы балюча адчуваем жахлівыя вынікі эканамічнага і палітычнага крызісу і здрады. Нашы дзеці недаядаюць. У іх няма самага неабходнага. Заўсёды цярплівы народ губляе веру ў будучыню. Мы страчваем векавыя маральныя каштоўнасці, выракаемся сваёй культуры, сваёй гістарычнай памяці і мовы. Надзеі на лепшае жыццё разбіваюцца аб цынізм і хлусню навяўленых палітыканаў. Усё разрабоўваецца. Адны багацеюць, а другія даведзены да адчаю, галечы. На вачах усяго свету Беларусь вяртаецца ў сістэму, якая ўжо знішчыла мільёны чалавечых жыццяў, і пад пустыя прэзідэнцкія абяцанкі "раю" коціцца ў прорву. Беларусь — за мяжою цывілізацыі: паглыбілася наша міжнародная ізаляцыя.

Мы, беларуская інтэлігенцыя, прадстаўнікі розных нацыянальнасцяў і веравызнанняў, у тым ліку пісьменнікі і журналісты, прадстаўнікі культуры, асветы, навукі, грамадскіх арганізацый, звяртаемся да ўсяго народа Беларусі з заклікамі.

Абаронім суверэнітэт Радзімы, каб застацца на зямлі народам з уласнай гісторыяй і будучыняй!

Выступім супраць авантурных змоў, за якімі стаяць не клопаты пра людзей, а палітыканскія амбіцыі і імперскія планы. Так званая інтэграцыя ператворыць беларускую зямлю ў заложніцу палітычных разборак. Мы — за сяброўскія міжнародныя адносіны. Але мы — за Беларусь суверэнную! За свабоду слова і сходаў, за права быць гаспадарамі ў сваім доме. Мы — супраць міліцэйскіх дубінак, якія калечаць нават жанчын і дзяцей! Мы — супраць рэжыму таталітарнага насілля!

Народ Беларусі!

У імя будучыні нашых дзяцей — абаронім ад манкуртаў незалежнасць Бацькаўшчыны!

Не — палітычным авантурам!

Не — нацыянальнаму самазабойству!

**С.Алексіевіч** — Саюз беларускіх пісьменнікаў, Саюз журналістаў;
**Р.Аляхновіч** — Таварыства беларускай школы;
**У.Анцулевіч** — грамадскі навукова-аналітычны цэнтр "Беларуская перспектыва";
**Р.Барадулін** — народны паэт Беларусі;
**Я.Брыль** — народны пісьменнік Беларусі;
**Г.Бураўкін** — Таварыства беларускай мовы;
**В.Быкаў** — народны пісьменнік Беларусі;
**А.Бяляцкі** — Літаратурны музей Максіма Багдановіча;
**С.Бястужава** — Фонд нацыянальнага выратавання;
**В.Вяргей** — "Мартыралог Беларусі";
**А.Вярцінскі** — Саюз беларускіх пісьменнікаў;
**Р.Гарэцкі** — Акадэмія навук Беларусі;
**В.Герасімаў** — Нацыянальная бібліятэка Беларусі;
**А.Гесь** — Нацыянальны архіў Беларусі;
**Н.Гілевіч** — народны пісьменнік Беларусі;
**Ж.Дапкюнас** — Літаратурны музей Янкі Купалы;
**П.Драчоў** — Саюз мастакоў;
**А.Дудараў** — Саюз тэатральных дзеячаў;
**Г.Запартыка** — Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва;
**В.Іпатава** — Саюз беларускіх пісьменнікаў;
**В.Каваленка** — Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы АНБ;
**А.Каўрус** — Беларускі педагагічны універсітэт імя Максіма Танка;
**М.Кляшторная** — Асацыяцыя ахвяр палітычных рэпрэсій;
**В.Коўтун** — Усебеларускі жаночы фонд Святой Еўфрасінні Полацкай;
**М.Крукоўскі** — Беларускі дзяржаўны універсітэт;
**М.Купава** — творчая суполка "Пагоня";
**З.Кучар** — Аб'яднанне дзяржаўных літаратурных музеяў;
**Л.Лыч** — Інстытут гісторыі АНБ;
**М.Лявіцкі** — хрысціянская злучнасць "Курапаты";
**А.Мальдзіс** — Навукова-асветны цэнтр імя Францыска Скарыны;
**А.Марачкін** — творчая суполка "Пагоня";
**а.Я.Матусевіч** — грэка-каталіцкая царква;
**М.Міцкевіч** — дабрачыннае таварыства "Сакавік";
**Б.Пятровіч (Сачанка)** — "Літаратура і мастацтва";
**Я.Пятроўская** — АТ "Амкадор";
**В.Рагойша** — Міжнародны фонд Янкі Купалы;
**Г.Сурмач** — Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына";
**В.Трыгубовіч** — часопіс "Мастацтва";
**А.Федарэнка** — часопіс "Полымя";
**М.Шавыркін** — часопіс "Роднае слова";
**К.Шэрман** — Беларускі ПЕН-Цэнтр.

І яшчэ больш за 200 подпісаў прадстаўнікоў творчых саюзаў, настаўнікаў, выкладчыкаў ВНУ, грамадскіх і культурных дзеячаў.

## Са святам, франтавікі!

### Большай радасці Вам, пераможцы!



Калаж Уладзіміра ПУСТАВАЛАВА.

## Не крыўдуйце на лёс, ветэраны!

Заўтра — Дзень Перамогі... Радасць ёсць толькі адна — ад сустрэчы з баявымі сябрамі. Успамін жа шчыміць сэрца, вымушае хвалявацца, прыгадваць франтавыя гады, напружаныя дні і ночы змагання з ворагам, несупынныя баі для тых, хто сваёй доблесцю, геройствам, вернасцю і адданасцю Радзіме, свайму народу, не шкадуючы жыцця, набліжаў сапраўды светлы майскі Дзень. Лепш, мабыць, і не скажаш, як адзначыў паэт, — "свята са слязамі на вачах".

Дзень Перамогі... Як спадзяваліся, як верылі, што менавіта надыдзе ён, такі жаданы, доўгачаканы, выпакутаваны ў зацяжных баях, у якіх франтавікі і партызаны гублялі сваіх аднапалчанаў, пераносілі пакуты і цяжкасці ваеннага ліхалецця.

Якім далёкім быў ён, гэты Дзень Перамогі, для тых, хто пазнаў горыч адступлення летам 41-га, каму давялося з баямі выходзіць з акружэння, выратоўваць баявы сцяг і выносіць на сабе параненых баявых сяброў. Але ён, пераможны май 45-га, настаў. І запамятаўся промнямі баявых салютаў, недзе ў вышыні ля самых аблокаў нябесным перастукам аўтаматных чэргаў. Так святкавалі Перамогу...

Пяцьдзесят два гады таму ў Берліне быў падпісаны Акт аб безагаворачнай капітуляцыі Германіі. А назаўтра першы мірны дзень быў афіцыйна абвяшчаны святам — Днём Перамогі.

Не крыўдуйце на лёс, ветэраны. На вашу долю выпала нялёгкае жыццё. Нават сённяшнія нястачы для многіх з вас нішто ў параўнанні з няспраўджанымі надзеямі. Вы ваявалі за светлую будучыню, лепшае жыццё для сваіх дзяцей і ўнукаў. І тое, што для многіх з вас сёння не па кішэні папесціць, пабалаваць маленькага нашчадка звычайнай шакаладкай ці газіроўкай, балюча адбіваецца на вашым самаадчуванні, выклікае непажаданыя пачуцці. Ці ж за такое жыццё вы змагаліся, ці ж такім уяўлялі сабе Дзень Перамогі праз паўстагоддзе?

За дзесяцігоддзі пасля вайны ад фашысцкай ідэалогіі, бадай, ужо нічога і не засталося. Калі-нікалі будзяць успамін шэсці невялічкіх груповак то ў гарадах Германіі, то ў... Маскве. Але гэта — прыкметы часу.

Зусім нездарма змагаліся за лепшую долю франтавікі. Лепшай яна абавязкова стане на нашай зямлі. Будзе яшчэ ў нас і "шведскі сацыялізм", і капіталізм па-амерыканску ці па-германску, і рыначныя адносіны са сваёй, а не кітайскай спецыфікай.

Больш радасці на тварах, франтавікі.

З Днём Перамогі Вас, дарагія ветэраны!

**Віктар СВІРКО.**

## Месца мітынгу мяняць нельга. Інакш атрымаеш 10 сутак арышту

Для "Чарнобыльскага шляху-97" плошча Незалежнасці была заблакіравана. Затое першамайскі мітынг, які ладзілі ўлады сумесна з афіцыйнымі прафсаюзамі, адбыўся менавіта насупраць Дома ўрада. Сюды з дазволу гарвыканкама прыбыла і калона дэманстрантаў на чале з лідэрамі сацыял-дэмакратычнай партыі і незалежных прафсаюзаў. Вядома, улады зрабілі ўсё, каб ператварыць мітынг ва ўсхваленне прэзідэнта А.Лукашэнкі. Калі слова далі прадстаўніку сацыял-дэмакратаў Міколу Статкевічу, ён, наадварот, не скупіўся на крытыку па адрасу таго ж прэзідэнта і яго атачэння. А напрыканцы выступлення заклікаў сваіх аднадумцаў пакінуць гэты "лукашэнкаўскі спектакль" і правесці свой мітынг у іншым месцы.

Некалькі тысяч чалавек рушылі спачатку па праспекту Скарыны, а затым па праспекту Машэрава да Палаца спорту. Тут і далі волю сваім думкам сацыял-дэмакраты і члены незалежных прафсаюзаў.

Калі з плошчы Незалежнасці і ад Палаца спорту людзі разышліся, міліцыя ўзялася за пошукі Мікалая Статкевіча. Справа гэта аказалася нескладанай. Хутка ён быў схоплены і арыштаваны на 10 сутак. За тое, што без дазволу памяняў месца правядзення мітынгу і не захацеў слухаць, як розныя прыслугачы хвалілі "бацьку".

**Антон КАЗЫРСКІ.**

## Трывожна!

## Што за выбухамі?

Пра здарэнні, якія адбываюцца апошнім часам у нашай рэспубліцы, хутчэй даведваецца замежны чытач, чым беларускі. Як вядома, 30 красавіка прагрымеў магутны выбух на газаправодзе каля вёскі Літва Уздзенскага раёна, але толькі 3 мая ў вячэрняй праграме тэленавін з'явілася першае афіцыйнае паведамленне аб надзвычайным здарэнні. Аб тым, што выбух меў сапраўды страшэнна вялікую сілу, сведчыць такі факт: металічныя кавалкі трубы разляталіся на 150—200 метраў, лес загарэўся ў радыусе прыкладна 100 метраў, а стоўб газавага факелу шугаў так высока, што яго можна было бачыць за дзесяць і болей кіламетраў.

Калі гэты нумар "Народнай волі" рыхтаваўся да друку, ліквідацыя пашкоджанняў на газаправодзе працягвалася. Згодна з заявай Савета бяспекі Беларусі, прычыны і абставіны здарэння вывучаюцца, у тым ліку і магчымасць тэрарыстычнага акту... Як паведаміла агенцтва "Ю.С.Ньюс", у КДБ Беларусі не пацвердзілі і не абвергл таго, што выбух быў арганізаваны тэрарыстамі.

Няма пакуль адказу на пытанне, што з'явілася прычынай выбуху, і ў спецыялістаў "Белтрансгазу". Здараецца гэта і пры "стамленні" металу, і пры дэфектах зварачных швоў, і ў многіх іншых выпадках.

У той жа час у заходніх сродках масавай інфармацыі шмат гаворыцца пра ліст "Беларускага Вызваленчага войска", якое быццам узяло на сябе адказнасць не толькі за аварыю на газаправодзе, але і за абстрэл пасольства Расіі ў Мінску, выбух на газакампрэсарнай станцыі каля горада Крупкі. Дарэчы, да апошняга часу аб "Беларускім Вызваленчым войску" ніхто нічога не ведаў. У каментатараў існуе некалькі версій. Адна з іх — гэта правакацыя ўлад з тым, каб увесці на Беларусі надзвычайнае становішча. У той жа час эксперты асаблівую ўвагу надаюць наступным радкам ліста "Беларускага Вызваленчага войска":

*"Гэтыя акцыі — папярэджанне маскоўскім "інтэгратарам" і іх беларускім халуям. Пад выглядам "інтэграцыі" яны забяспечваюць стратэгічныя інтарэсы "Вялікай" Расеі і супэрманаполіяў: Газпрома, ЛУКОЙЛа, МШЗ і г.д., пазбаўляюць беларускі народ найвялікшага здабытку — Незалежнасці, прадаюць будучыню нашых дзяцей і ўнукаў.*

*Мы разглядаем "інтэграцыю" як анэксію Беларусі Расеяй і ўсе дзеянні супраць гэтага як барацьбу за Незалежнасць Бацькаўшчыны.*

*Нашыя мэты: узнаўленне дзеяння Беларускай Канстытуцыі 1994 г., усталяванне дэмакратычнага ладу ў Беларусі, барацьба з рэжымам Лукашэнкі, супрацьдзеянне імпэрскім памкненням Расеі анэксаваць Беларусь".*

Некаторыя журналісты зацікавіліся пытаннем: ці мае нейкае дачыненне да адбыўшыхся здарэнняў Беларускі народны фронт? Каменціруючы пісьмо "Беларускага Вызваленчага войска", сакратар Управы БНФ Вячаслаў Сіўчык катэгарычна адверг дачыненне БНФ да выбухаў, але заявіў: "...Дзеянні беларускіх патрыётаў будуць усё больш радыкальнымі".

На розныя думкі наводзіць дадзеная інфармацыя. Але бясспрэчна адно — нішто не павінна хавацца ад людзей.

**Пётр КАРАЛЬЧУК.**

## Эканамічны каментарый

## Выкрутасы вакол "спажывецкага кошыка"

Каб адчуць сапраўдныя маштабы жабрацтва ў краіне, варта звярнуцца да аналізу "спажывецкага кошыка", які ўключае самы мінімальны набор прадуктаў для чалавека. Ім пастаянна цікавяцца спецыялісты Федэрацыі прафсаюзаў. Загадчык сацыяльна-эканамічнага аддзела Іван Гурскі тлумачыць, што да аналізу ўзроўню жыцця прафсаюзы ставяцца даволі сур'ёзна.

Што ж паказвае аналіз, зроблены напярэдадні Першамая?

Спачатку хачу спыніцца на нормах спажывання прадуктаў. Мне вельмі хацелася б паглядзець у вочы тым людзям, якія іх вызначалі. Так, рабочаму чалавеку, згодна з гэтымі нормамі, у месяц патрэбна 1,67 кілаграма яблык. Гэта значыць, прыкладна восем штук, альбо 1/4 частка яблыка ў дзень. Няўжо яны сур'ёзна лічаць, што токару ці сталявару дастаткова столькі вітамінпай прадукцыі? У "кошыку", які ўключае 19 назваў асноўных прадуктаў, няма ні апельсінаў, ні памідораў, ні агуркоў.

Вызначаны таксама 1 кілаграм 200 грамаў ялавічыны ў месяц, альбо 40 грамаў — адна шкварка ў дзень. Амаль столькі ж і свініны. Каўбасы ў месяц — 580 грамаў, ці 19 грамаў на дзень — на "адзін зуб"...

З такім рацыёнам можна хутка працягнуць ногі, а не тое каб працаваць. Хоць,кажуць, распрацоўваецца канцэпцыя пражытачнага мінімуму, у якой, кажуць, прадугледжваецца зніжэнне згаданых нормаў. Федэрацыя прафсаюзаў пратэстуе супраць такога кроку.

Але вернемся да сённяшняга "спажывецкага кошыка". Нават такі мінімальны набор прадуктаў каштуе 614 тысяч рублёў у месяц. А трэба ж яшчэ купіць праязны білет, мыла, чаравікі, нешта з вопраткі, заплаціць за кватэру. З улікам усёй гэтай мінімальнай мінімалкі ў месяц чалавеку патрэбна мець 1,644 тысячы рублёў. А сярэдні заробак на Беларусі складае 1,7 мільёна рублёў. Словам, працуючы чалавек можа з цяжкасцю харчавацца толькі сам са свайго заробку. А за што карміць дзяцей? Распрацоўшчыкі тых нормаў, відаць, аб гэтым не падумалі. Цяпер жа гэтую "няўвязку" яны спрабуюць вырашыць зніжэннем нормаў спажывання прадуктаў, прадугледжаных "спажывецкім кошыкам", каб на мізэрную зарплату нейкі акрайчык хлеба прыпадаў ужо і на дзетак. Тады можна будзе па тэлевізару гаварыць аб паляпшэнні жыцця народа. Маўляў, калі раней рабочы на сваю зарплату мог пракарміць толькі сябе, дык цяпер — ужо і дзіцё. Во які рост! Во як турбуецца пра людзей наш Аляксандр Рыгоравіч! Можна не сумнявацца, што зімоўскія ўсіх масцей хутка зацягнуць падобную песню.

Не магу не назваць сярэдні заробак работнікаў культуры і мастацтва. Ён складае адпаведна — 1,3 і 1,2 мільёна рублёў. Значыць, яны не могуць пракарміць нават сябе за свой заробак. Відаць, пасля карэкціроўкі нормаў і гэтая "няўвязачка" будзе ліквідавана.

А як пры сённяшніх цэнах пражыць пенсіянеру, які атрымлівае ў сярэднім дзесьці 700 тысяч рублёў?

Замест рэальнага паляпшэння ўзроўню жыцця ўлады зацяваюць выкрутасы вакол "спажывецкага кошыка", каб займець лічбы, якія паказваюць нібыта паляпшэнне спраў.

**Алесь ДРАБЧУК.**

**Да ўвагі чытачоў**

**З-за бясконцасці свят, на жаль, зноў парушаецца графік выхаду газет. Чарговы нумар "Народнай волі", як і іншых выданняў, Вы, шаноўныя чытачы, атрымаеце 13 мая.**

## Может ли верить Европа Александру Лукашенко и Ивану Антоновичу?

Наверное, уже каждому стало понятно — власти Беларуси вернули в обиход из коммунистических времен политику двойных стандартов. Тогда высоких представителей Запада официальные лица уверяли: в стране торжествуют самые демократические принципы. Хотя, как всем хорошо памятно, демократией у нас и не пахло.

О серьезной опасности еще раз "поводить на нос" доверчивых людей в соответствующем послании председателю Совета Европейского Союза г-ну Хансу ван Миерло предупреждает Президиум Верховного Совета Беларуси 13-го созыва. В документе, направленном в Евросоюз, руководство Верховного Совета ставит под сомнение искренность министра иностранных дел Беларуси Ивана Антоновича, который в письме к г-ну Хансу ван Миерло от 10 апреля 1997 года заверяет ЕС о намерении президента и правительства Беларуси провести со всеми депутатами бывшего парламента обсуждение вопроса об усовершенствовании Конституции 1994 года. Президиум Верховного Совета заявляет, что до настоящего времени (а письмо отправлено 2 мая) никаких попыток провести такой диалог со стороны исполнительной власти не предпринималось. Отсутствие реальных шагов со стороны президента Лукашенко по реализации своих обещаний, отмечается в заявлении, свидетельствует о стремлении ввести в заблуждение мировую общественность. Примером тому служит и подготовленный президентом проект Закона "О толковании части первой статьи 143 Конституции Республики Беларусь", в котором предусматривается прекратить полномочия депутатов Верховного Совета 13-го созыва, не вошедших в состав Палаты представителей Национального собрания.

В документе, направленном председателю Совета Евросоюза, руководители Верховного Совета в очередной раз заявляют, что готовы обсудить с исполнительной властью пути выхода из политического кризиса в обществе, создания условий для укрепления демократии и соблюдения прав человека в республике.

**Владимир ГЛОД.**

## Дожили!

## "Чтобы не слушать ложь и не смотреть Зимовского, я продаю телевизор"

О чем я хочу сказать со страниц "Народной воли", так это о белорусском телевидении. БТ дышит ложью, искажением фактов, недоговоренностью. Ни для кого не секрет, что Беларусь сейчас, благодаря А.Г.Лукашенко, находится в политической изоляции. А телевидение говорит о каком-то росте авторитета республики на международной арене. Нашего Лукашенко просто-напросто не принимают на Западе, а БТ об этом — ни слова.

Особенно отвратителен ведущий программы "Резонанс" Зимовский. Посмотрите, как он постоянно скороговоркой обливает грязью таких видных политических деятелей, как Шушкевич, Карпенко и др. Не гнушается он и прямых оскорблений. Вот выдержка из его монолога с экрана: "А теперь посмотрим, как к этому отнеслись Шушкевич, Карпенко и прочие **грибы**".

Когда прошел слух о том, что будут отключены программы ОРТ, чтобы задействовать второй канал БТ, то все мои знакомые в один голос заявили: "Ну, тогда телевизоры можно продавать..." Но если многие решатся избавиться, то кто их купит? Хотя это серьезно...

Даже далекие от политики передачи стали серыми, неинтересными. Лживость наложила свою печать на все передачи БТ, на ее художественную часть. Давайте откроем на страницах "Народной воли" рубрику "Ваше мнение о белорусском телевидении" и откровенно поговорим о тех "картинках", которые подсовывает услужливый Кисель.

Я вношу еще одно предложение. Отменить смертную казнь и заменить ее пожизненным просмотром программ Белорусского телевидения. Но это временно. Потому что и Лукашенко, и Кисель (руководитель БТ) — явление временное.

**С уважением —**

**Геннадий ЖЕВНЕРОВ, учитель математики.**

г.Солигорск.

***P.S.** Когда началась кампания по созданию молодежной организации "Прямое действие", в Солигорске во Дворце шахтеров собрали около 80 человек. После долгой и нудной агитации в "Лукомол", как называют эту организацию, записалось около 15 человек (это при населении Солигорска более ста тысяч человек). Остальные со смехом разошлись. Думаю, что затея Лукашенко — дело бесперспективное. Молодежь еще помнит о такой организации, как комсомол.*

## Крик души

## Вот так и тратим последние денежки с пенсии, обиваем пороги за свое собственное добро...

В 1967 году профком производственного объединения "Беларуськалий" наделил шахтеров и частично химиков Солигорска земельными участками в 4,5 сотки. Располагаются они в лесной зоне, что рядом с городом.

В 1993 году каждому члену садоводческого товарищества добавили еще по 4,5 сотки земли рядом со старыми участками без права возведения построек.

В это же время разрешили приватизацию земельных участков, за что мы взялись с большим желанием, хотя она и тянулась у нас два года. Госакт на землю обошелся каждому в 115 тысяч рублей, но садоводы остались довольны. Как-никак, а земелька своя, как говорят, на веки вечные. Умру — останется детям, внукам, да и при нынешней нищете огород одно спасение.

Поскольку жизнь у шахтеров короткая — сказываются условия труда, то многие хозяева дачных участков уже, к сожалению, умерли, другие обессилели по старости, и по этой причине началась у нас кампания по переоформлению на родственников и купля-продажа посторонним своей земельки. Начались хождения по мукам, денежные затраты и потеря времени. Нужно было: отнести справку и 270 тысяч рублей в БТИ (бюро технической инвентаризации); выстоять у дверей нотариуса полтора часа, чтобы вручить ему справку и 660 тысяч рублей за оформление; написать прошение на переоформление участка в райисполком, а затем, дождавшись через месяц ответа, съездить в Минск в Белгипрозем за госактом, заплатив за дорогу туда и обратно 150 тысяч рублей и за сам госакт 120 тысяч рублей. Понятно, голодным не будешь, зайдешь в столовую перекусить и, конечно же, как минимум тысяч двадцать заплатишь. В налоговую инспекцию нужно было отнести 12 тысяч рублей.

Таким образом, госакт обходится пенсионеру не менее чем в один миллион 312 тысяч рублей. Дарственная и завещание обходятся чуть дешевле. Но этот процесс считается полумерой.

До приватизации было совсем просто. Правление садоводства разрешало переоформлять (передавать) участок на близких родственников бесплатно. Выписал новую книжку на нового владельца, пожал руку, пожелал ему хорошего урожая, и на этом делу конец. При купле-продаже чужому человеку была та же процедура, только последний платил три рубля целевых взносов.

Жив у нас еще один садовод, который помнит, как его отец в тридцатые годы в Западной Беларуси переоформлял свою землю на сына. Относил госакт к клерку или писарю, тот вносил письменные изменения, ставил печать — и все готово.

Выходит, ошиблись мы с приватизацией, обманули нас. Кто переоформляет? Пенсионер. Тот, который чувствует свою кончину. Вот и тратит он свои последние денежки с пенсии и обивает пороги за свое собственное добро, за свою земельку размером в 9 соток. Так и хочется собрать эти акты и отвезти их обратно, только не знаем, куда и кому.

**Михаил ТРУБСКИЙ, бывший шахтер, председатель садоводческого товарищества "Горняк-1".**

Трывога!

# ТРУНАНОСЕЦ, або План "Бліцкрыг"

**Я лічу, што ў праекце Статута Саюза Беларусі і Расіі галоўным з'яўляецца артыкул 11, які прадугледжвае "стварэнне *аб'яднанай сістэмы* тэхнічнага забеспячэння ўзброеных сіл дзяржаў-удзельніц", што адназначна арыентуе нацыянальныя эканоміку і прамысловасць на мілітарысцкі курс развіцця. Прагнозы і шматвектарныя сістэмныя пралікі паказваюць — гэты шлях безальтэрнатыўна і імгненна прывядзе да: а) татальнага разбурэння і без таго кволай сацыяльна-арыентаванай эканамічнай інфраструктуры; б) рэзкага зніжэння якасных параметраў тавараў народнага спажывання, а ў выніку — нябачанага дагэтуль падзення жыццёвага ўзроўню.**

**Пашыранае, і не без падстаў, меркаванне пра выгадны гандаль зброяй і буйныя дывідэнды збройнага бізнесу ва ўмовах Беларусі — *эканамічны блеф,* не падмацаваны ні тэарэтычна, ні статыстычна. Гэта туман, ілюзія, падман зроку. У лепшым выпадку на выніках рэалізаванага праекта маглі б пагрэць рукі асобныя аўтарытэты, выбранцы дырэктарска-генеральскага клана, але ў сённяшніх рэаліях ён — салодкая мара, недасягальная нават для "звышкрутых" бізнесменаў.**

**Аздараўленне вайскова-прамысловага комплексу патрабуе не імпульса або шэраговай тэхнічнай падтрымкі, а звышмагутнай фінансавай плыні астранамічнай паводле аб'ёму, падрыхтаванай і фізічна асвоенай у суперсціслы тэрмін. Ніякі жывы арганізм, а тым больш саслабелы, якім з'яўляецца эканоміка Беларусі і яе мяркуемага партнёра, ніколі не вытрымае падобнага цяжару. Толькі авантурыст і дзетазабойца можа прапаноўваць і адстойваць праект-монстр, які мае рысы крывава-безаблічнага трунаносцы.**

**Беларусь не мае знешніх ворагаў, яе суседзі — дружалюбныя дзяржавы. Дэ-юрэ і дэ-факта яны праводзяць у дачыненні да нашай краіны міралюбівую палітыку. Вызначаная ж ў праекце Статута Саюза агрэсіўная вайскова-эканамічная дактрына прынясе народу Беларусі толькі галечу, усеабдымнае жабрацтва і смерць.**

**Змест артыкулаў 8—33 праекта Статута красамоўна сведчыць пра непрыхаваныя імкненні імперскіх колаў Расіі і беларускага марыянеткавага рэжыму, хаўруснага з вайскова-прамысловай групай, у рэжыме "Бліцкрыг" анексаваць Беларусь, па праву мацнейшага інкарпараваць яе ў склад расійскага Вавілона. Прыняцце і зацверджанне Статута, таемна падрыхтаванага і ашаламляльна хутка парафіраванага, на практыцы прывядзе да ліквідавання беларускай дзяржаўнасці, спынення самастойнай эканамічна-гаспадарчай, фінансавай, іншай дзейнасці. Прапанаваны Статут — траянскі конь, пастка, прамы шлях да нацыянальнага заняпаду, духоўна-культурнай дэградацыі беларускага народа.**

**На сучасным этапе гістарычнага развіцця ў прававым спектры дачыненняў паміж Рэспублікай Беларусь і Расійскай Федэрацыяй найбольш аптымальны — міждзяржаўны рамачны "Дагавор аб дружбе і супрацоўніцтве", які дазваляе дастаткова эфектыўна рэалізоўваць шырокі спектр узаемавыгадных праектаў як у сацыяльна-гуманітарнай, так і ў тэхніка-эканамічнай сферах.**

**Іван САВЕРЧАНКА,**
**старшыня Камісіі па адукацыі Беларускага народнага фронта.**

Пазіцыя

# Ці адзінакроўная наша роднасць?

*"Не говори: "Отчего это прежние дни были лучше нынешних?", потому что не от мудрости ты спрашиваешь об этом".*
*Кніга Эклесіяста, гл. 7, 10*

Сёння — у каторы раз! — пачалася генеральная рэпетыцыя казкі "Аб адзінакроўнай роднасці беларусаў і рускіх". Рэжысёры-пастаноўшчыкі як з боку Беларусі, так і з боку Расіі — нашы старыя знаёмыя, таму не трэба іх прадстаўляць чытачам.

У сённяшняй пастаноўцы ўсё тыя ж, добра знаёмыя прыёмы: беларусы — нашчадкі ліцвінаўскага роду і рускія на працягу вякоў поруч — плячо да пляча — змагаліся за сваю незалежнасць, імкнуліся жыць у адной дзяржаве з адзінай мовай (канешне ж, рускай!) і разам адстойваць агульныя інтарэсы.

Але казка — яна і ёсць казка. Казкі заўсёды ствараліся чалавекам, і ў гэтых казках малявалася тое, што хацеў чалавек, каб адбылося. Яны, гэтыя казкі, былі заўсёды добрымі, бо іх стваралі простыя людзі-працаўнікі. Заканчваліся гэтыя казкі заўсёды перамогай дабра над злом. Але галоўнае ў іх было тое, што яны не хлусілі. Памятаеце сквапнага папа, які хацеў задарма мець у сваім падворку таннага працавітага работніка?

А што прапаноўваюць сённяшнія пастаноўшчыкі-казачнікі? Яны спрабуюць падаць хлусню ў якасці гістарычнай праўды. Таму і фінал казкі аб шчаслівым жыцці ў абдымках адзін аднаго атрымліваецца непрыхавана фальшывым.

Дык, можа, аўтар гэтых радкоў зацяты русафоб і таму выступае супраць сапраўднага добразычлівага сяброўства і супрацоўніцтва з Расіяй?

Ні ў якім разе! Я супраць хлусні і памкненняў ізноў згвалтаваць маю Беларусь, падачы гэтага як палкага абаюднага жадання.

Я спрабую, перабіраючы старонкі нядаўняй і далёкай гісторыі, знайсці падзею, у якой беларусы выступалі б у ролі агрэсара ў дачыненні да Расіі. Шукаю таму, што хачу аднаго — гістарычнай праўды. Але знайшоў я зусім іншае.

Расійскае войска пад кіраўніцтвам Пятра I у 1703 годзе руйнуе дашчэнту беларускі горад Магілёў, знішчае цалкам беларускія вёскі з іх жыхарамі.

У 1794 годзе беларусы разам з палякамі і літоўцамі паднялі паўстанне супраць расійскай акупацыі сваіх зямель. Паўстанне было падаўлена расійскім войскам на чале з А.Суворавым. Напэўна, за гэта сёння расійскаму генералісімусу на Беларусі стаяць помнікі, у яго гонар названыя вуліцы ў гарадах і мястэчках, яго імя носяць калгасы.

У 1831 годзе на захадзе Беларусі ўспыхвае антырасійскае паўстанне. У студзені 1863 года выбухнула паўстанне пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага. Расійскае войска жорстка расправілася з барацьбітамі за свабоду Беларусі. 128 паўстанцаў былі пакараны смерцю, 853 былі сасланыя на катаргу, а 11502 былі высланыя за межы Бацькаўшчыны.

Гэта рабіла царская Расія, якую ў свой час У.Ленін назваў "турмой народаў". І вось адбыўся бальшавіцкі пераварот, які ўвайшоў у гісторыю пад назвай Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі.

Што робіць расійскі ўрад на чале з бальшавікамі?

18 снежня 1917 года ў Мінску збіраецца Першы ўсебеларускі кангрэс. На ім прысутнічаюць 1872 дэлегаты ад усіх грамадскіх і палітычных плыняў Беларусі. Бальшавіцкае кіраўніцтва "Западной области" (так яны называлі Беларусь), убачыўшы, што Кангрэс разглядае нацыянальнае пытанне, у ноч з 30 на 31 снежня сілай разганяе Кангрэс.

А Кангрэс усяго толькі выказаўся за аўтаномію Беларусі ў складзе федэратыўнай Расіі!

Чаму яны гэта зрабілі? На гэта мы знойдзем адказ, калі звернемся да выказвання ў 1918 годзе лідэра бальшавікоў "Западной области" Кнорына. Вось што ён пісаў:

"Мы считаем, что белорусы не являются нацией и что те этнографические особенности, которые их отдаляют от остальных русских, должны быть изжиты. Нашей задачей является не образование новых наций, а уничтожение старых национальных рогаток".

Па гэтай прычыне бальшавікі задушылі і створаную 25 сакавіка 1918 года Беларускую Народную Рэспубліку. Пачаўся гандаль беларускімі землямі. Нацыянальныя інтарэсы беларусаў для бальшавікоў не існавалі. Ім трэба было ўмацоўваць сваю ўладу. І дзеля гэтага яны ішлі на ўсё. У ход ідзе палітычнае махлярства.

Яны ствараюць ССРБ, каб супрацьпаставіць яе ўтворанай ужо БНР. Але хутка ліквідуюць яе (праз месяц). Усходнія беларускія землі перадаюцца РСФСР. Астатнія далучаюцца да Літвы з утварэннем Літбела са сталіцай у Вільні. І, заўважце, пры гэтым ні ў ССРБ, ні ў Літбеле беларуская мова не мела права на існаванне — яна забаранялася ў друку, не дапускалася карыстанне ёю ў дзяржаўных установах.

31 ліпеня 1920 года бальшавіцкія ўлады адраджаюць ССРБ, каб паказаць, што яны паважаюць права кожнай нацыі на самавызначэнне. Але за межамі зноў створанай ССРБ засталося шмат выдатных беларускіх дзеячоў, якія сваёй сумленнасцю вельмі перашкаджалі бальшавікам.

І тады пачынаецца паварот на 180 градусаў: афіцыйна пачынаецца кампанія шырокай беларусізацыі. Паддаўшыся на гэты ход бальшавіцкай улады, у дваццатых гадах у БССР вяртаюцца з-за мяжы Максім Гарэцкі, Францішак Аляхновіч, Вацлаў Ластоўскі, Аркадзь Смоліч і іншыя. Усе яны трапілі ў бальшавіцкую пастку і разам з Усеваладам Ігнатоўскім, Зміцерам Жылуновічам, Аляксандрам Чарвяковым былі расстраляныя.

Сёння нашчадкі бальшавіцкай нацыянальнай палітыкі, адчуўшы рэальную небяспеку для сябе, выкарыстаўшы кволасць дэмакратычнага руху, не здолеўшага ўзняць нацыянальную ідэю да ўзроўню, каб яна дайшла да кожнага, пайшлі ў наступ.

Надаецца статус дзяржаўнай, акрамя беларускай, і рускай мове. На справе гэта не што іншае, як задушэнне беларускай мовы, бо яна ні прэзідэнту ў першую чаргу, ні шматлікай кагорце ягоных прыслугачоў-манкуртаў не патрэбная.

У выніку беларуская мова знікае, толькі-толькі ўсталяваўшыся там, з дзіцячых садкоў, са школ, не кажучы ўжо пра вышэйшыя навучальныя ўстановы. А там, дзе яна яшчэ трымаецца дзякуючы самаахвярнасці сапраўдных патрыётаў сваёй Бацькаўшчыны, робіцца ўсё цяжэй і цяжэй.

І вось чарговая ахвяра — спынілася выдавецтва беларускамоўнай газеты "Наша слова". Улады адмовіліся яе фінансаваць.

Можна сказаць, у падполле загналі гістарычную нацыянальную сімволіку: бел-чырвона-белы флаг і герб "Пагоня".

А паглядзіце на паліцы кнігарань. Ці ўбачыце вы дзіцячыя кніжкі на беларускай мове — казкі, вершы, апавяданні?

Што, можа, гэта — выпадкова? Не, гэта дзяржаўная палітыка, камертонам якой выступае кіраўніцтва краіны.

Нехта абавязкова скажа, што не трэба на гэта звяртаць асаблівай увагі, бо ёсць галоўнае — няма вайны, ёсць хлеб і да хлеба, таму лепей кіравацца вядомай прымаўкай: "Чый бы бычок ні быў, абы цяляці было нашым".

На жаль, такога погляду прытрымліваецца сёння ці не большасць грамадзян Беларусі. Можна зразумець такое стаўленне да жыцця сельскага жыхара, якога прымушалі працаваць, не ведаючы, што ён атрымае за сваю працу, з думкай якога ніколі ніхто з чыноўнікаў не лічыўся, і даравацъ яму яго неасэнсаваны мазахізм. Але нельга дараваць абыякавасць людзям адукаваным, якія добра разумеюць заганнасць сённяшняй палітыкі прэзідэнта ў адносінах да ўсяго беларускага, а тым болей тым, хто ўдзельнічае ў гэтай ганебнай справе.

Гэта пра іх сказана: "Которые за подарки оправдывают виновного и правых лишают законного!" (Кніга прарока Ісаі, гл. 5—21, 23).

Да сярэдзіны мая будзе ісці абмеркаванне Статута Саюза Беларусі і Расіі. Няцяжка прадбачыць, што са змяненнямі і дапаўненнямі ці без іх, а Статут будзе ратыфікаваны, бо вельмі высокія стаўкі зробленыя Лукашэнкам і Ельцыным у палітычнай гульні пад назвай "Пашырэнне НАТО на Усход". Абдымаючыся перад тэлекамерамі, гэтыя высокапастаўленыя акцёры імкнуцца сарваць свой куш.

Што чакае Беларусь у выпадку ратыфікацыі гэтага Статута, адкрытым тэкстам — дзякуй яму за гэта! — сказаў вядомы расійскі палітык, дэпутат Дзярждумы Расіі ў сваім артыкуле "Объединение — с открытыми глазами", надрукаваным у газеце "Известия" за 15 красавіка 1997 года:

"Да, утрата Белоруссией статуса государства — субъекта международного права **неизбежна** (выдзелена мной. — **Ф.Ш.**) в случае ее объединения с Россией, в случае ее — опять давайте называть вещи своими именами — вхождения в состав России".

І далей: "Преступно упустить шанс поднять голову, остаться стоять, разглядывая только пятаки под ногами".

Вось так: Расіі "преступно упустить шанс", каб падняць галаву. А тое, што дзеля гэтага Беларусь павінна стаць на калені, — гэта не мае ніякага значэння! Мая годнасць, мой гонар не маюць ні для Лукашэнкі, ні для Ельцына ніякага значэння.

Як бы гэта прыкра ні было, але я вымушаны сказаць, што калі б Расія для Беларусі была сапраўды адзінакроўным старэйшым братам, яна б, убачыўшы, што малодшы брат стаў дарослым, не паводзіла б сябе з ім як з гарэзай-першакласнікам, а дапамагла б яму дастойна ўвайсці ў складанае самастойнае жыццё.

**Фелікс ШКІРМАНКОЎ,**
**ветэран Вялікай Айчыннай вайны.**
г. Слаўгарад.

Пратэст

# Як адрэагуе Барыс Ельцын на ліст з Беларусі

Вялікая група вядомых людзей Беларусі накіравала зварот прэзідэнту Расійскай Федэрацыі Барысу Ельцыну. У ім гаворыцца, што ў нашай рэспубліцы дапускаюцца грубыя парушэнні правоў чалавека, працягваецца ўціск незалежнай прэсы, аднаўленне той таталітарнай сістэмы, якая знішчыла мільёны суайчыннікаў.

Адзначаецца, што ўсе дэмакратычныя дзяржавы свету і вядомыя міжнародныя арганізацыі (АБСЕ, Савет Еўропы, Парламенцкая асамблея Савета Еўропы, Еўрапейскі Саюз, Еўрапейскі Парламент і інш.) рашуча асуджаюць нецывілізаваныя дзеянні беларускіх улад. І толькі Расія адкрыта салідарызавалася з рэжымам Лукашэнкі.

Звяртаючыся да Б.Ельцына, дэмакратычныя сілы Беларусі падкрэсліваюць:

"Рэжым Лукашэнкі рэальна пагражае стабільнасці і бяспецы ў рэгіёне, асновам дэмакратычнага развіцця суседніх дзяржаў, у тым ліку і Расіі. На Вас, як на прэзідэнце адзінай краіны ў свеце, падтрымаўшай пераварот у Беларусі, ляжыць персанальная адказнасць за рэпрэсіі і здзекі над асобаю ў нашай дзяржаве..."

Заканчваецца зварот словамі:

"Толькі пасля аднаўлення дэмакратыі ў Беларусі можна весці перамовы аб далейшай інтэграцыі з Расіяй. Беларускія дэмакратычныя сілы будуць дабівацца міжнароднага непрызнання і актыўна супрацьстаяць анексіі Беларусі. Сёння дэмакратыя і незалежнасць Беларусі — неад'емныя паняцці".

**(Ул. інф.)**

# Юзеф Олекса прыняў Таразевіча

У Варшаве з візітам пабываў старшыня рэвізійнай камісіі Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі, дэпутат Мінскага гарсавета Георгій Таразевіч. Ён меў працяглую гутарку з кіраўнікам польскіх сацыял-дэмакратаў, маршалам Сейма Юзефам Олексай, які запрасіў дэлегацыю БСДП наведаць Варшаву з афіцыйным візітам у маі з мэтай пашырэння супрацоўніцтва. Таразевіч меў шэраг сустрэч з дзелавымі коламі Польшчы.

**Прэс-служба БСДП.**

# У маі эксперты маюць намер актыўна папрацаваць

12—13 мая ў штаб-кватэры СНД у Мінску адбудзецца пасяджэнне рабочай групы па ўдасканаленню дзейнасці органаў Садружнасці, а 13—15 мая эксперты СНД плануюць абмеркаваць праект Пагаднення па папярэджанню незаконнай міграцыі. Аб гэтым паведамілі карэспандэнту БелТА ў прэс-службе СНД.

15—16 мая адбудзецца пасяджэнне Міждзяржаўнага савета дарожнікаў.

Паўнамоцныя прадстаўнікі дзяржаў-удзельніц СНД 21—23 мая абмяркуюць праект перспектыўнага плана па рэалізацыі Канцэпцыі фарміравання інфармацыйнай прасторы СНД.

**Ларыса КЛЮЧНІКАВА,**
**БелТА.**

# "Беларуская вясна-97" не заканчваецца

Падобна на тое, што спакойнага жыцця ў бліжэйшы час у прэзідэнта Лукашэнкі не будзе. Апазіцыя яго рэжыму плануе ў тэрмін з 13 па 15 мая правесці тры "ўдарныя" акцыі.

У аўторак, 13 мая, Нацыянальны эканамічны савет Грамадскага кааліцыйнага ўрада мае намер зацвердзіць "Канцэпцыю і Асноўныя напрамкі эканамічных рэформ". Гэта будзе галоўны эканамічны дакумент краіны, у якім народу растлумачваецца, чаму ён так дрэнна жыве і што трэба зрабіць, каб выправіць справы.

На наступны дзень прыхільнікі незалежнасці Беларусі хочуць прайсці ад плошчы Якуба Коласа па праспекту Францыска Скарыны да плошчы Незалежнасці і правесці там мітынг.

А 15 мая адбудзецца Кангрэс у абарону Канстытуцыі і дэмакратыі.

**Уладзімір КОТ.**

# Ірландцам дадзена "зялёнае святло"

Больш як двое сутак прастаяў на пагранпераходзе "Казловічы" канвой гуманітарнай дапамогі з Ірландыі. Звыш чатырох дзесяткаў машын "хуткай дапамогі", абсталяваных навейшай медыцынскай апаратурай, накіроўваліся ў раёны Гомельшчыны, Міншчыны, а таксама Браншчыны, што пацярпелі ад Чарнобыля. Акрамя гэтага, ірландцы везлі адзенне і прадукты харчавання.

Як стала вядома карэспандэнту БелТА, прычынай такой доўгай затрымкі была адсутнасць у замежных гасцей дазволу Беларускага ўпраўлення дзяржветнагляду на дзяржаўнай граніцы і транспарце на ўвоз у нашу краіну прадуктаў харчавання. І толькі пасля таго, як з Мінска прыбылі спецыялісты ўпраўлення, пытанне было вырашана, і аўтамашыны накіраваліся да месца прызначэння.

Вядома ж, можна толькі падзякаваць за дапамогу міласэрным людзям з няблізкай Ірландыі. Але можна зразумець і нашых вартавых граніцы і спецыялістаў ветэрынарнай службы, бо прадукты ішлі з рэгіёна, дзе выяўлена небяспечная інфекцыя ў буйной рагатай жывёлы.

**Іван КУКСА,**
**БелТА.**

Стоп-кадр



*У парку Дружбы, што знаходзіцца на скрыжаванні мінскіх вуліц Арлоўскай і Карастаянавай, узводзіцца праваслаўная капліўчка ў памяць ахвяр чарнобыльскай катастрофы. Напярэдадні адзінаццатай гадавіны аварыі былі ўстаноўлены пазалочаны купал і крыж.*
**На здымку:** устаноўка крыжа на купал капліўчкі.
**Фота Мікалая ПЯТРОВА, БелТА.**

Было, было, было...

# Еду как-то по Берлину...
## (Три случая из автомобильной практики)

**Первый.** Еду как-то по Берлину. Район города незнакомый. Стемнело. Заблудился. Стою под фонарем, карту изучаю. Слышу, машина рядом притормозила. Оборачиваюсь — полиция. "Что случилось?" — спрашивают. Да вот, заблудился. "О, найн проблем (нет проблем), едь за нами, выведем..." И вывели. Спасибо, господа!

**Второй.** Поехали однажды в один крупный магазин. Место незнакомое, стоянки не видно. Проехали мимо супермаркета по главной дороге метров 200, смотрю — проулок направо. Несколько машин там стоит. И я там припарковался. Пошли в магазин. Пока по этажам прошлись (как в музее) — стемнело. Сделали покупки. Сели в машину, развернулись в проулке, выехали на главную дорогу и поехали домой. Тут меня полиция и тормознула. Нарушил правила, говорят. "Где?" — в изумлении спрашиваю. А вот там, в проулке: туда можно, а назад нельзя — одностороннее движение. Все понятно. В сумерках я знак одностороннего движения и не заметил. Лезу в карман, "цванциг марк" (20 марок) достаю и штраф собираюсь платить. "Не надо, — вежливо так мне полицейский говорит, — мы видим, ты иностранец, правила нарушил непреднамеренно, можешь ехать дальше. Счастливого пути!"

— Спасибо, господа!

Садясь в машину, обернулся. Мои хорошие знакомые уже выписывают "цванциг марк" местному водителю. Уж он-то знает, что в проулке том одностороннее движение!

**Третий.** Приехал я как-то раз на "Ост банхоф" (Восточный вокзал) товарища встречать. А это в то время было, когда две Германии объединились. Поезд приходит в 15.00. Я задержался в пути и тоже к 15.00 на вокзал подкатил. На стоянку машину ставить — время терять — не захотелось. Да и зачем? Бросил ее прямо на дороге, под знаком, где эта самая стоянка запрещена. (Это у нас сейчас так делается, и в бывшей ГДР это часто практиковалось.) Встретил товарища. Едем к машине, чемодан ему помогаю нести. Глянь, а моя машина уже сверху на грузовой стоит! И ее, мою дорогую, уже увозить собираются! Ё-моё! Бросил чемодан. Подбегаю, запыхавшись, — моя, говорю. В кабине грузовика трое: полицейский и двое "ликвидаторов" в униформе. Все трое смеются.

— Знак видишь?

— Вижу. Но я спешил, спешил... Вот поезд только приехал, — залепетал я на чистом немецком языке.

— Это меня не интересует, — строго так говорит полицейский. — Надо платить штраф.

— Ясное дело, куда денешься, надо платить. Сколько? — спрашиваю.

— Немного. В полицию — 20 марок, а этим двоим еще 70.

Я в уме быстренько так двадцать плюс семьдесят прибавил, потом по курсу перевел... "Огого!" — сказал я себе мысленно и покорно полез в карман. Пока мне гер-полицейский квитанции выписывал (храню их!), эти двое мою машину на землю поставили. У них это четко: кран на машине и четыре захвата на колеса. Две минуты работы — 70 марок в городскую казну. Отпустили меня на этом и успехов пожелали.

— Спасибо, господа!

Что интересно: у меня не потребовали ни права, ни техпаспорт машины. Меня даже не спросили о том, из какой, собственно, страны я в Берлин приехал.

Нарушил — плати!

Но это не все. Сидим мы дня через три в хорошей компании, французский чай пьем. Когда по несколько рюмок выпили, один мой товарищ и говорит:

— А я вот недавно машину свою в Берлине не там, где разрешено, оставил...

Мне все сразу стало ясно.

— Когда нашел? — спрашиваю.

— На следующий день, в таком-то полицейском участке.

Мне опять все стало ясно (ученый уже!).

— Сколько заплатил? — спрашиваю.

Помялся мой друг, но сказал:

— Сто девяносто марок...

Во дают, за хранение еще сто марок насчитали!

Но и это еще не все.

Я после этого случая, когда по Берлину ездил, прежде чем машину на стоянку ставить (в установленном месте, конечно!), сначала смотрел: ага, немецкие машины стоят, значит, и я свою машину поставлю.

Но и это еще не все.

В тот самый злополучный день шеф мой служебную машину с водителем давал! Отказался я. На своей "ласточке" прокатиться хотелось, купил недавно. Прокатился...

**Четвертый.** Еду я как-то по Бобруйску... Впрочем, это уже другие истории.

**По Берлину ездил**
**Владимир ШАРНИКОВ,**
**ныне проживающий в г.Бобруйске.**

По вашей просьбе

*Ничего не пойму: одни говорят, что нужно декларировать доходы, другие — мол, не обязательно. Скажи, "Народная воля", есть на сей счет официальный документ или нет?*

**Степан ВИЛЬКОВСКИЙ, ваш постоянный читатель.**
Минск.

Уважаемый С.Вильковский! Ознакомьтесь, пожалуйста, с постановлением Совета министров Республики Беларусь от 19 марта с.г., в котором содержится ответ на ваш вопрос. Думается, этот документ имеет интерес и для многих других читателей.

# О некоторых вопросах декларирования доходов и имущества физических лиц в Республике Беларусь

В связи с декретом президента Республики Беларусь от 12 февраля 1997 года № 2 "О декларировании доходов и имущества физических лиц в Республике Беларусь" Совет министров Республики Беларусь постановляет:

1. Утвердить прилагаемые:

— Положение о порядке представления декларации о доходах и имуществе, источниках денежных средств физических лиц в Республике Беларусь;

— формы деклараций о доходах и имуществе, а также об источниках денежных средств, расходуемых на совершение имущественной сделки на сумму, превышающую 500 минимальных заработных плат.

2. Внести в Положение о порядке и условиях заключения контрактов со служащими государственного аппарата, утвержденное постановлением Совета министров Республики Беларусь от 31 января 1994 года № 49 (СП Республики Беларусь, 1994 года, № 4, ст. 41), следующие изменение и дополнение:

— пункт 3 дополнить абзацем следующего содержания: "не представившими декларацию о доходах и имуществе или указавшими в ней неполные либо недостоверные сведения";

— пункт 8.2 изложить в следующей редакции: "8.2. в связи с непредставлением в установленном порядке декларации о доходах и имуществе или указанием в ней неполных либо недостоверных сведений".

3. Признать утратившим силу постановлением Совета министров Республики Беларусь от 15 марта 1994 года № 149 "Об утверждении Положения о порядке представления служащими государственного аппарата, должностными лицами государственных предприятий, учреждений, организаций и гражданами деклараций о доходах" (СП Республики Беларусь, 1994 года, № 8, ст. 121; Собрание указов президента и постановлений Кабинета министров Республики Беларусь, 1996 г., № 1, ст.11).

**Премьер-министр Республики Беларусь С. Линг.**

# ПОЛОЖЕНИЕ
## "О порядке представления деклараций о доходах и имуществе, источниках денежных средств физических лиц в Республике Беларусь".

В настоящем Положении устанавливается единый порядок декларирования доходов и имущества, источников денежных средств физических лиц в Республике Беларусь.

1. Обязательному декларированию подлежат:

1.1. доходы физических лиц в денежной и натуральной форме, полученные в течение календарного года на территории Республики Беларусь, а для граждан республики — и за ее пределами;

1.2. находящиеся в собственности физических лиц: жилые дома с надворными постройками, гаражи, иные строения и объекты незавершенного строительства, квартиры, а также их части (доли); земельные участки; транспортные средства (кроме мопедов, велосипедов и гужевого транспорта); произведения искусства, драгоценные металлы и драгоценные камни, изделия из них, если стоимость предмета превышает 200 минимальных заработных плат; строительные материалы, общая стоимость которых превышает 500 минимальных заработных плат; денежные средства, акции, облигации, векселя и другие ценные бумаги, сумма которых превышает 500 минимальных заработных плат; иное имущество, стоимость единицы которого превышает 500 минимальных заработных плат.

Оценка имущества производится в ценах на момент предъявления декларации.

2. Физические лица обязаны:

2.1. представлять декларацию о доходах и имуществе, указанных в пункте 1 настоящего Положения, по требованию органов Комитета государственного контроля, государственных налоговых органов, органов внутренних дел, Комитета государственной безопасности и Прокуратуры;

2.2. при совершении имущественной сделки на сумму, превышающую 500 минимальных заработных плат, представлять декларацию об источниках денежных средств, расходуемых на эти цели, в налоговый орган по месту совершения сделки или по месту жительства.

3. Служащие государственного аппарата, должностные лица государственных предприятий, учреждений и организаций, военнослужащие, за исключением курсантов и военнослужащих срочной службы, лица рядового и начальствующего состава органов внутренних дел при назначении на должность обязаны представлять по месту работы (службы) декларацию о доходах и имуществе, перечисленных в пункте 1 настоящего Положения.

Декларации представляются соответствующим руководителям и хранятся в личных делах работников. Руководители государственных предприятий, учреждений, организаций направляют декларации о своих доходах и имуществе назначившему их органу.

4. После получения декларации налоговые органы выдают физическим лицам справки.

Указанные справки (оригиналы) сдаются в учреждения, предприятия, организации, предпринимателям, осуществляющим деятельность без образования юридического лица, которые совершают, регистрируют или нотариально удостоверяют сделки.

Налоговый орган, получивший декларацию от физического лица, проживающего в другом районе города (населенном пункте), в трехдневный срок направляет ее в налоговый орган по месту жительства.

Орган, получивший декларацию, подтверждает факт ее получения.

5. Сведения, изложенные в декларациях, не подлежат разглашению.

6. Представленные декларации и выданные справки об их представлении учитываются в специальных книгах.

7. Физические лица, не представившие декларацию или указавшие в ней неполные либо недостоверные сведения, а также лица, совершившие регистрацию либо нотариальное удостоверение сделки при отсутствии у физического лица справки налогового органа о представлении декларации, привлекаются к ответственности в соответствии с действующим законодательством.

При отсутствии у физического лица справки налогового органа о представлении декларации сделка не подлежит совершению, регистрации или нотариальному удостоверению и признается недействительной.

Откровенно

# Неправда, что мы, рядовые милиционеры, – безголовые, жестокие марионетки. Мы просто заложники сложившейся ситуации...

*Признаться, раньше писем от сотрудников внутренних дел редакция почти не получала. А теперь...*

*Хотя автор и подписался псевдонимом, хотя у него и не очень стройные мысли, но не хочется сдавать эти откровения в архив. Нужно вслушиваться в голоса не только "гегемонов пролетариата", "вождей-проводырей", тех, кого мы называем мозгом нации — ученых, писателей, журналистов, но и людей с погонами и дубинками. Кому захочется вступить в дискуссию — пожалуйста.*

Здравствуй, уважаемая редакция!

Есть старый анекдот. Приходит человек в парикмахерскую, садится в кресло и с недоверием изучает окружающую обстановку, а потом с возмущением говорит:

— Что-то у вас простыня не совсем белая, да и зеркало грязное, а бритва...

Парикмахер ему отвечает:

— Извините, а в наших магазинах вас все устраивает?

Клиент отвечает:

— Да не совсем.

— А улицы наши как вам?

— Да и на улицах что-то не то.

— Так что же вы к нашей парикмахерской прицепились?!

Я вспомнил этот немудреный анекдот не случайно. Он — прямая параллель белорусской печати. Когда в последнее время появляется информация о работе органов внутренних дел, особенно на фоне политических событий, проходящих в нашем государстве, то она почему-то обязательно сводится к разгону демонстраций, жестокости, вседозволенности. На снимке — здоровенный детина в форме, в основном боец ОМОНа, с тупым взглядом, готовый рвать на части всех и вся.

А так ли все однозначно?

Чтобы ответить на этот вопрос, я расскажу немного о себе.

Я — работник одного из подразделений МВД. Не участвую в разгонах демонстраций, потому что у нас их нет, как и не участвую в арестах "нячэсных" генералов милиции, профессоров, "агентов ЦРУ". Но когда я вижу своих сослуживцев в "цепи" на улицах Минска, очень хорошо понимаю их состояние. В лицах можно увидеть все — и злость, и неуверенность, и боль. Кто же мы — "менты"?!

Вспомним прошлое. Канун первого общебелорусского референдума. Лидеры депутатской фракции БНФ объявили голодовку в зале Верховного Совета. Той же ночью они были жестоко избиты, "оплеваны" и выброшены из зала заседаний. Реакция депутатов: в лучшем случае — молчание, в худшем — мало дали.

Немало представителей нынешней оппозиции в то время работало в Верховном Совете, занимая высокие посты в руководящих органах. К чему привела позиция созерцателей? Главного редактора парламентской газеты сдали, голодающие депутаты были избиты, национальный флаг разорван, Верховный Совет обречен. Собственно говоря, было положено начало геноцида всего белорусского, была "узаконена" диктатура.

Так в чем виноваты мои сослуживцы, которые теперь очень часто стоят в цепи на улицах Минска?

Если и выдвигать претензии, то не к рядовым милиционерам, а к тем, кто у власти, кто отдает приказы. Разве кто-нибудь из нас шел в милицию, чтобы разгонять демонстрантов? Мы думали, что главная наша задача — ловить преступников, оберегать жизнь людей от всякой нечисти, а тут политика... Кто прав, кто виноват? Приказы нужно не обсуждать, а выполнять. Да, я слышал и о правах человека, и о свободе слова, но ведь есть декрет "всенародно избранного"... Да и о семье нельзя забывать. Вот метрополитеновцы попробовали высунуться, так по сей день без работы. А мне платят регулярно. Дети сыты, да и концы с концами можно свести.

Правда, заводы часто простаивают, мать с отцом месяцами денег не видят, но я же им помогаю. А попробуй скажи что-нибудь против начальства — и этого не будет. Вот демонстранты кричат: "Фашисты, фашисты..." Но какие же мы фашисты, у меня же дед в войну погиб. А насчет труса... Какой же я трус — и стреляли в меня, на нож шел, а сколько в засаде сутками сидеть. Да и сколько ребят потеряли, настоящих ребят. Нет, я не из робкого десятка.

Но людям рот не закроешь. Вчера соседка зверем смотрела. Шла, говорит, в магазин, а там милиция дубинками людей лупит, остановилась, тут и ей досталось. Знаю, она всю жизнь на заводе отпахала, ей эта политика до одного места... И я ничего плохого ей не желаю, а она: "Может, и ты там был?" И продолжает смотреть на меня зверем. Какая жуть!

Что делать? Завтра опять идти на службу. А если не побояться и сказать: "Что же мы делаем? Служим не законам, а противозаконным приказам. Какой закон разрешает дубасить невинную женщину? Никакой..."

Неправда, что мы, рядовые милиционеры — безголовые, жестокие марионетки. Неправда, что у нас нет чувства сострадания. Неправда, что мы не любим свою Родину — Беларусь. Хотя, что греха таить, среди нас хватает и подлецов, и негодяев. А в обществе все нормально? Среди нынешних оппозиционеров нет лицемеров и подлецов? Мы такие же заложники сложившейся ситуации, как и многие другие. Но мы готовы с честью исполнить свой долг и стать на стражу закона и порядка. Не пора ли, уважаемая власть, почувствовать ответственность и за милиционера, стоящего на улице, и за студента-манифестанта, идущего рядом с нами. Мы — дети одной земли, и делить нам нечего. Мы тоже хотим жить в благополучии, честно делать свою работу и не стыдиться своих поступков. Мы тоже хотим видеть торжество и силу закона. Но неужели угрозами и оценкой тех или иных действий режима можно добиться победы? Если кто-то думает так, то еще многих и многих ждет разочарование и беда. А самое главное — не "сдавайте" тех, кто верит вам и надеется, независимо от положения и рангов. Жыве Беларусь!

**Фома НЕВЕРУЮЩИЙ.**

P.S. *Я понимаю, что написанное мной не шедевр. Я исполняю свой долг не столько как сотрудник УВД, сколько как гражданин. Если уважаемая редакция сочтет возможным опубликовать мое письмо, я буду не против прочитать на страницах "Народной воли" и другие мнения. Дискуссия в данном направлении необходима. Не секрет: как бы ни разворачивались дальнейшие события в нашей стране, УВД сыграют в них значимую роль, к огромному моему сожалению. И как поступит каждый конкретный сотрудник милиции — от этого будет зависеть конечный результат.*

